 



*Газета заснавана ў 1938 годзе.*
*Аднаўлена ў 1997 годзе.*

# Газета Слонімская

№ 41 (122). 7 — 13 кастрычніка 1999г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 30.000 руб.

**НАДЗЁННАЕ**

## НАСТАЎНІКІ НЕЗАДАВОЛЕНЫ...




Фота IREX/ProMedia

**Педагагічныя калектывы слонімскіх школ абмеркавалі і адобрылі праект рэзалюцыі каардынацыйнага савета абласнога аб'яднання галіновага прафсаюза.**

Настаўнікі выказалі патрабаванні аб змяненні сацыяльна-эканамічнай палітыкі ў інтарэсах працоўных. У прыватнасці, спыніць рост цэн і інфляцыі, перагледзець памер заработнай платы, пенсій, стыпендый, дапамог, забяспечыць іх рэальны рост і своечасовую выплату, прыняць закон "Аб ахове працы" і г.д.

Удзельнікі настаўніцкіх сходаў выказалі таксама патрабаванне аб змяненні асобных артыкулаў дэкрэта Аляксандра Лукашэнкі "Аб дадатковых мерах па ўдасканаленню працоўных адносін, умацавання працоўнай выканаўчай дысцыпліны", якія, на іх думку, пагаршаюць прававое становішча работнікаў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**БЕЛАРУСЫ ПРА САМІХ СЯБЕ**

### Калі зажывём?

Прыйшлі да Бога рабочы, селянін і настаўнік з пытаннем: "Калі ж, Божа, будзем мы лепш жыць?".

Бог пачухаў патыліцу і адказвае рабочаму:

— Вы, мабыць, гадоў праз 50.

— Не дажыву, — зажурыўся рабочы і заплакаў.

— Вы, — звяртаецца Бог да селяніна, — гадоў праз 100.

— І я не дажыву, — пацяклі слёзы з вачэй селяніна.

— Ну, а я, я калі лепш жыць пачну? — не цярпіцца настаўніку.

Падумаў Божанька і заплакаў...

**Аляксей ЯКІМОВІЧ, настаўнік**

**НАВІНЫ**

### Аукцыён не адбыўся

**Аукцыён па продажу аб'ектаў камунальнай уласнасці ў Слоніме, правядзенне якога было намечана на 5 кастрычніка, не адбыўся.**

Па словах супрацоўнікаў аддзела прыватызацыі гарвыканкама, заявак на ўдзел у аукцыёне не паступіла ні ад юрыдычных, ні ад фізічных асоб. На іх думку, жадаючых набыць ва ўласнасць маёмасць палохае высокі кошт аб'ектаў, прызначаных для продажу на аукцыёне. І сапраўды, незавершанае будаўніцтва склада-магазіна на Савецкай вуліцы ацэнена ў 5 млрд. рублёў, а склад на Чырвонаармейскай вуліцы каштуе 4,5 млрд. рублёў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Доллар растет

**На прошедшей неделе курс доллара США к белорусскому рублю вновь вырос.**

На "черном" рынке наличной валюты курс доллара к рублю составил 515.000–525.000 рублей при покупке и 535.000–540.000 рублей при продаже.

Курс доллара к безналичному рублю на внебиржевом рынке повысился за неделю на 0,8 процента (с 615.000–645.000 до 620.000–650.000 рублей).

**БелаПАН**



**ЗДАРЭННІ**

### Смяротныя заробкі

**Днямі ў Мастах пахавалі двух мужчын сярэдняга веку, якія былі на заробках у Расіі.**

Па папярэдніх звестках, яны памерлі ад алкагольнага атручэння. Адзін памёр адразу, другі праз некалькі дзён у лякарні. Гэта не першыя ахвяры сярод мастаўчан, што едуць у Расію, каб папраўціць сямейны бюджэт. Некалькі гадоў таму пасля атрымання заробку былі забіты і спалены ў будаўнічым вагончыку трое мужчын з Мастоў.

**Антон МАКЕЙ**

### Бясконцыя крадзяжы

**Днямі ў Слоніме невядомыя залезлі ў дом жыхаркі М. з вуліцы Чырвоных партызан і ўкралі 850 даляраў ЗША, 7 млн. беларускіх рублёў і залатыя вырабы.**

Не думала сланімчанка Б., якая жыве на вуліцы Перамогі, што незачыненая фортка ў кватэры прывядзе да бяды. Невядомы злодзей праз акно трапіў у пакой і ўкраў 9 залатых вырабаў.

Днём ад дома № 5 па вуліцы Даватара была ўгнана аўтамашына "Аўдзі-80", якая належыць слонімцу Б.

На мінулым тыдні злодзеі сарвалі замок на дзвярах дома жыхара з вуліцы Ружанскай Л. і ўкралі хатнія рэчы і адзенне.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**НАВІНЫ**

### І людзі рванулі ў выканкам

**Гарэлачны дэфіцыт не мінуў і Масты. Ужо каторы тыдзень у крамах няма моцных алкагольных напояў.**

Адзіным месцам у горадзе, дзе не перасыхае спіртны ручэй, з'яўляецца буфет, што знаходзіцца ў будынку райвыканкама.

Там на месцы кожны наведвальнік можа ўжыць сто і болей грамаў. На вынас гарэлку не даюць, бо пляшкі з пячаткамі. Але і тут наш кемлівы народ знайшоў выйсце. Людзі проста з чарак пераліваюць гарэлку ў пластыкавы посуд.

### У Мастах за сувязь плоцяць натурай

**Сёння ў некаторых мастоўскіх калгасах няма грошай, каб разлічыцца з раённым вузлом электрасувязі.**

Таму, каб скасаваць запазычанасць, гаспадаркі прапаноўваюць РВЭС збожжа, муку, цукар. А вось калгас "Чырвоная зорка" за карыстанне сувяззю адвёз у горад жывых свіней. Цікава, што б на гэты конт сказаў дзядуля Маркс, аўтар "Капітала", калі б даведаўся, што паслядоўнікі яго вучэння зноў скаціліся да першапачатковага перыяду таварных зносін.

**Антон МАКЕЙ**

### На танны хлеб уведзена норма

**У Мастоўскім раёне на хлеб, які каштуе ў два разы танней звычайнага (17 тысяч рублёў), уведзена норма.**

Згодна з гэтай нормай адзін чалавек можа купіць толькі два боханы хлеба.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Ці варты наш горад большага?

**Як вядома, слонімскія ўлады рыхтуюцца ў 2002 годзе адзначаць 750-годдзе нашага горада, адкінуўшы больш старажытную згадку пра заснаванне Слоніма ў 1040 годзе.**

А вось улады Ваўкавыска нядаўна прынялі адваротнае рашэнне. Яны вырашылі адмовіцца адзначаць угодкі заснавання свайго горада згодна Іпацьеўскаму летапісу (1252 г.). Кіраўнікі Ваўкавыска палічылі, што іх горад варты большага і прынялі прапанову гісторыкаў аб змене даты заснавання на больш раннюю. Таму ў 2005 годзе адбудзецца ўрачыстае святкаванне 1000-годдзя (!) Ваўкавыска.

**Сяргей ЁРШ**

## ХРОНІКА "МІНІРАВАННЯ" СЛОНІМА

**Раніцай 5 верасня сапёры шукалі "міну" у слонімскай СШ № 8. Не знайшлі. Як паведамілі карэспандэнту "ГС" у гарадскім штабе грамадзянскай абароны, пра бомбу ў восьмай школе міліцыі паведаміў нейкі хлопчык, які пазваніў з вулічнага тэлефоннага аўтамата.**



*Жыхары дома №40 па вуліцы Яршова чакаюць, што скажуць сапёры*

4 кастрычніка невядомы "замініраваў", ужо ў другі раз, слонімскі Дом саветаў. Тэрмінова былі эвакуіраваны жыхары бліжэйшых дамоў. На той час чыноўнікі яшчэ не паспелі прыйсці на працу і таму чакалі каля будынка, пакуль гродзенскія сапёры шукалі выбуховае прыстасаванне, якога там не аказалася.

Днём 30 верасня тэлефонны тэрарыст "замініраваў" дзевяціпавярховы жылы дом № 40 па вуліцы Яршова. Аператыўна будынак быў ачэплены міліцыяй, а яго жыхары і жыхары бліжэйшага дома эвакуіраваны са сваіх кватэр і знаходзіліся непадалёку, чакаючы развіцця падзей. Да месца здарэння прыбылі дзве пажарныя машыны і "хуткая дапамога". З Гродна былі выкліканы сапёры, якія прыехалі праз некалькі гадзін і нічога, падобнага на выбуховае прыстасаванне, не знайшлі. Каля 21 гадзіны вечара людзі змаглі вярнуцца ў свае кватэры.

Жыхары па-рознаму аднесліся да "мініравання" іх дома. Большасць была ўпэўнена, што ніякай "бомбы" у іх доме няма. "Каб была, то не званілі б", — гаварылі яны. Аднак, відавочна, што п10асля такіх здарэнняў некаторыя слонімцы не будуць адчуваць сябе ў поўнай бяспецы ў сваіх кватэрах. Адна бабулька так і сказала: "Буду баяцца ўночы, бо яны падрываюць дамы, калі людзі спяць. Каб было больш ахвяраў"... Так што рэха расійскіх падзей дасягнула і Слоніма.

Цікава, што ў той жа дзень у раённай дзяржаўнай газеце была змешчана інфармацыя пра нараду, якую правёў старшыня гарвыканкама Алег Лакцюшын з кіраўнікамі прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў. Яна была прысвечана "тэрарыстычным актам у Расіі і папярэджанню іх у нашай рэспубліцы". І вось адразу адбыліся такія здарэнні. Такім чынам папярэдзіць «тэрарыстычныя акты» у Слоніме не ўдалося...

**Сяргей ЁРШ, Мікалай СУПРУН (фота)**

 

НАШЕ ИНТЕРВЬЮ

Александр Чумаков:

# "У КОМАНДИРА БРИГАДЫ ИВАНА ЧАУСА ВСЕ ЕЩЕ ВПЕРЕДИ"

**На днях Слонимскую механизированную бригаду посетил министр обороны Беларуси генерал-полковник Александр Чумаков.**

Он подвел итоги войсковых учений, которые недавно проходили на Обуз-Лесновском полигоне (Барановичский район). Корреспондент "ГС" взял интервью у генерала Чумакова.



***— Какую оценку по итогам учений получил личный состав 11 механизированной бригады?***

— Слонимская бригада получила оценку "хорошо". Военнослужащие показали высокий уровень управления подразделениями части, продемонстрировали мастерство в тактических действиях бригады и огневого поражения целей. В результате большая группа солдат и офицеров была поощрена. Например, командиру 3-го танкового батальона майору А.Дмитруку досрочно присвоено очередное воинское звание "подполковник".

***— 11-ой механизированной бригаде первой в Вооруженных силах Беларуси пришлось проводить учения с боевой стрельбой. Это случайность или же...***

— В ноябре прошлого года в плане оперативно-боевой подготовки Министерство обороны определило, что 11-ая механизированная бригада проведет учения с боевой стрельбой. Да, действительно, такие учения проводились впервые. Надо же учить военного человека не бояться взрывов снарядов, воспитывать у них смелость и решительность. И слонимская бригада показала себя в этом плане с хорошей стороны.

***— Экономическое положение в стране довольно сложное. Достаточным ли было материально-техническое обеспечение учений?***

— Да, у нас стоял вопрос обеспечения учений горюче-смазочными материалами, поскольку на полигон необходимо было вывести большое количество боевой техники. Но мы полностью обошлись теми средствами, которые были выделены нам государством на 1999 год.

***— Если не секрет, "светят" ли генеральские погоны командиру бригады Ивану Чаусу?***

— У командира бригады Ивана Чауса все еще впереди: и погоны, и новые должности, в том числе и должность министра обороны. Хотел бы также отметить четкие и слаженные действия личного состава 3-го танкового батальона, которым командует подполковник Дмитрук, и 4-го танкового батальона подполковника Галени. Мне очень понравились умелые действия командира артиллерийского дивизиона подполковника Александра Сизова.

***— Неужели учения прошли без волнений?***

— Нет, конечно. Согласно поставленной задаче, артиллерийский дивизион должен был открыть огонь в установленное время. Однако неожиданно в районе огня остановился танк, у него слетела гусеница... Чем могла бы закончиться эта ситуация, даже страшно представить. Но, к счастью, все обошлось благополучно, и артиллерийский дивизион выполнил свое задание на "отлично". Но с другой стороны, может и хорошо, что такие нестандартные ситуации на учениях происходят, поскольку они обогащают боевой опыт личного состава.

***— Вы отметили высокое боевое мастерство офицеров бригады, а как вы оцениваете уровень боевой подготовки солдат и сержантов?***

— Ребята молоды, им необходимо повышать умение владеть оружием и боевой техникой, потому что от действий солдат и сержантов в боевой ситуации складывается успех батальона, бригады и корпуса.

**Валентин ЧУРИЛО**

НАВІНЫ

# СУСТРЭЧА ПРАЗ ГАДЫ

**1 кастрычніка адбылася сустрэча былых выпускнікоў Слонімскага рамесніцкага вучылішча.**



*Удзельнікі сустрэчы*

Яны сабраліся каля інтэрната медвучылішча на вуліцы В. Крайняга. Менавіта ў гэтым будынку і знаходзілася пасля вайны іх навучальная ўстанова. На жаль, змаглі прыйсці не ўсе былыя рамеснікі. Тым больш, што лёс многіх з іх раскідаў не толькі па ўсёй Беларусі, але Расіі, Казахстане і іншых краінах СНД. Шмат людзей ужо памёрлі...

Удзельнікі сустрэчы ўспаміналі пра цяжкія пасляваенныя гады, пра сваіх сяброў і настаўнікаў. Дамовіліся зноў сабрацца праз год, але ўжо ў больш пашыраным складзе.

**Сяргей ЁРШ,**
**Мікалай СУПРУН (фота)**

НАВІНЫ

## На три преступления меньше

**За первое полугодие текущего года в Слониме и в Слонимском районе несовершеннолетними подростками было совершено 36 преступлений.**

Это на три преступления меньше, чем за соответствующий период прошлого года. Об этом редакции "ГС" сообщил заместитель начальника Слонимского ГРОВД Федор Медведев.

**Сергей ЧИГРИН**

## Яшчэ адна кніга паэта

**Новый зборнік вершаў выйшаў нядаўна ў свет у адным з выдавецтваў Беларусі.**

Яго аўтар – урач санаторыя "Наваельня", што ў Дзятлаўскім раёне Яўген Матвеяў. Гэта другая кніжка паэта. Першая выйшла ў 1997 годзе.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Только за вывоз мусора мы платим полностью

**В настоящее время население Беларуси оплачивает лишь 17,1% себестоимости жилищно-коммунальных услуг.**

Об этом сообщил заместитель министра жилищно-коммунального хозяйства Валерий Новак.

По его словам, население оплачивает 16,7% себестоимости электроэнергии, 13,2% – отопления, 47,5% – холодной воды, 7,4% – горячей воды, 51% – канализации, 19,7% – газа. Плата за квартиру составляет всего 11% от необходимой, и лишь за вывоз мусора население платит полностью.

**БелаПАН**

ЗДАРЭННІ

## Пастух — пад коламі

**Пастух калгаса імя Міцкевіча Мастоўскага раёна трапіў пад колы трактара "МТЗ-80".**

Ад атрыманых траўм калгаснік памёр на месцы.

**Міхась АКУЛКА**

## А ночка цёмная была

**Менавіта яна і схавала злодзеяў, што арудавалі ў г. п. Казлоўшчына Дзятлаўскага раёна.**

З легкавой машыны "Опель" яны ўкралі супрацьтуманныя фары і бампер.

## Напілася атруты

**Маленькая дзяўчынка з пасёлка Гезгалы, што ў Дзятлаўскім раёне, памылкова выпіла раствор перакісу вадароду.**

Яна тэрмінова была дастаўлена ў раённую бальніцу.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Возможен ли сегодня в Беларуси государственный "аппаратный" переворот?

**Возможен ли сегодня в Беларуси государственный "аппаратный" переворот? На такой вопрос предложила ответить ряду политиков, должностных лиц и политологов страны "Белорусская деловая газета" на страницах своего последнего номера.**

Директор Национального института социально-экономических и политических исследований Олег Манаев считает, что подобный переворот возможен, поскольку интересы правящего слоя – политические и материальные – скорее подавляются, чем поддерживаются. По мнению профессора Манаева, у тех, кто сегодня находится у власти, включая самое близкое окружение президента, отсутствует возможность осуществлять свои интересы.

Допускает такое развитие событий и лидер Партии коммунистов белорусской Сергей Калякин. Как отметил он, сегодня вся власть в стране сконцентрирована в одном лице, а потому для осуществления "дворцового" переворота "достаточно отстранить одного человека от власти".

Чрезвычайный и полномочный посол Беларуси, экс-председатель президиума Верховного Совета БССР, Георгий Таразевич считает, что, в связи с ухудшением экономической ситуации в стране, "именно народ в ближайшее время будет являться главной политической силой". Что же касается госаппарата, то, по словам Г.Таразевича, "их всех пронизывает страх", "они все на крючке у спецслужб", а потому аппаратный переворот ныне невозможен. В то же время дипломат не исключает, что ситуация может измениться к концу нынешнего года.

Заместитель главы администрации президента Иван Пашкевич категорически отверг возможность такого переворота, подчеркнув, что "аппарат работает безупречно" и "ни у кого из сотрудников администрации даже в мыслях подобное не возникало".

**Наталья ФУРСОВА**

## Пераможца конкурсу рэлігійнай песні

**Слонімскі хор "Крэда", якім кіруе Наталля Кукліцкая, вярнуўся з міжнароднага конкурсу рэлігійнай песні, што праходзіў у польскім горадзе Хэлм.**

Нашы спевакі там занялі другое месца з 16 калектываў Польшчы, Беларусі, Украіны і Расіі.

За добрае выступленне ўдзельнікі хору атрымалі 200 даляраў ЗША, падарункі, дыплом і клавішны музычны інструмент "Ямаха". Гэты інструмент хор перадаў альбярцінскаму касцёлу.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Жалезныя абяцанкі...

**Амаль 20 гадоў улады абяцаюць пабудаваць у Мастах станцыю па абезжалезванню вады.**

Справа ў тым, што якасць вады камунальнага водаправода па ўтрыманню жалеза ў вадзе, па дадзеных раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, на сённяшні дзень на 65-69% не адпавядае патрабаванням Дзяржстандарту. Утрыманне жалеза ў вадзе ў 3-6 разоў перавышае ўстаноўлены нарматыў.

Ідэя пабудовы станцыі лунае над Мастамі яшчэ з часоў існавання Савецкага Саюза. Некаторыя асобы на абяцанках пабудовы гэтага аб'екта станавіліся дэпутатамі Вярхоўнага Савета. Сёлета райвыканкам таксама паабяцаў гараджанам, што будаўніцтва вось-вось распачнецца. Нават на гэтыя мэты выдзелены зямельны ўчастак пад будаўніцтва, і інстытут "Белкамунпраект" прыступіў да праектавання каштарысной дакументацыі. Цікава, чым скончыцца чарговае абяцанне гэтым разам?

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Паратунак для алкаголікаў

**На мінулым тыдні пры Пабрыгіцкім касцёле ў Гродне адбылося чарговае спатканне груп ананімных алкаголікаў з Гродна, Слоніма, Дзятлава і Шчучына.**

У сувязі з гэтым ксёндз-біскуп Антоній Дзям'янка правёў святочную імшу. Ён шчыра падзякаваў людзей, якія, усвядоміўшы трагедыю алкагалізму, вызваліліся ад гэтай заганы. Ініцыятарам і лідарам стварэння груп ананімных алкаголікаў у розных гарадах Гродзенскай вобласці з'яўляецца ўрач-нарколаг з Дзятлава Віктар Белавус, які сам у мінулым быў нявольнікам алкаголю.

Па словах аднаго з удзельнікаў спаткання ананімных алкаголікаў са Слоніма, іх група імкнецца дапамагчы вызваліцца ад алкагольнай залежнасці ўсім жадаючым. На яго думку, таямніца поспеху заключаецца ў дзейсным удзеле асобаў, якім удалося кінуць піць і якія гатовыя падзяліцца сваёй дасведчанасцю з кожным, хто пакутуе ад алкаголю і свядома хоча змяніць стыль свайго жыцця.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............ 2-14-39
............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 6 кастрычніка 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7300 экз.
Заказ № 2595
© «Газета Слонімская»
Спасылка на «ГС» абавязковая
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

АД ПЕРШАЙ АСОБЫ

# ТЭЛЕФАНІЗАЦЫЯ

Калі ў канцы жніўня я капаў у роднай вёсцы Вострава Слонімскага раёна 150-метровую траншэю пад тэлефонны кабель, то не вельмі зважаў на кпіны бабулек накшталт: "Ну што, знайшлі сабе дарэмную працу?.. Не бойцеся — вайны не будзе..." Тады я думаў, што якім усё ж рамантычна-наіўным быў у свой час правадыр сусветнага пралетарыяту, калі сцвярджаў, што камунізм — гэта 100 тысяч трактароў плюс электрафікацыя ўсёй краіны. Не. Камунізм — гэта калі сувязіст кажа вясковай пенсіянерцы: "Ніякіх трактароў. Хочаш мець тэлефон — капай!" І капалі. Дзеці, унукі. А некалькі старых, у каго не было каму капаць, адмовіліся ад таго тэлефона на карысць маладзейшых, хоць працяглы час стаялі ў тэлефоннай чарзе.

Ды нічога, як кажуць у народзе, пракапалі — у калекі не ўпалі. Сувязісты праклалі кабель, падвялі яго да хат і падключылі да сеткі. Засыпалі траншэі тыя, хто іх капаў. Праўда, дзеля справядлівасці хацелася б адзначыць той факт, што кіраўніцтва мясцовага калгаса "Рассвет" не забараняла для гэтых мэт выкарыстоўваць калгасную тэхніку — усё ж лягчэй.

Засыпалі, заплацілі за тэлефонны кабель і за працу сувязістам — званіце. І вось першы званок маці са свайго тэлефона да мяне ў горад: "Сынок, купі там і прывязі тэлефонную разетку з вілкай..." Прызнацца, не чакаў, што ў выдаткі за праведзеную сувязь не ўвайшлі такія дробязі. Купіў, паставіў. А тут як раз узнікла патрэба пазваніць па міжгорадзе. Але колькі не набіраў васьмёрку — няма выхаду. Пры сустрэчы пацікавіўся ў дваюраднай сястры, якая жыве ў другім канцы вёскі і таксама толькі што займела тэлефон, ці ёсць у іх выхад на міжгорад? Аказваецца, у іх ёсць. Вось табе й маеш! Разам падключаліся, адна падстанцыя на 50 нумароў, толькі што размеркавальныя скрыні розныя, але ў адным канцы вёскі выхад на міжгорад ёсць, у другім — няма...

Едучы ў адну з "гарачых" вераснёўскіх субот на бульбяное поле, сустрэў аўтамашыну з надпісам "Сувязь". Ну, думаю, зараз хлопцы парамантуюць і "прачнецца" васьмёрка. Але дарэмна я спадзяваўся. Як пазней высветлілася, шукалі яны тады не васьмёрку, а дзевятку, бо ў многіх кватэрах па Маладзёжнай вуліцы і на горад выхад прапаў...

Такая вось сувязь. Застаецца радавацца, што з вёскі за трэцім разам магу дазваніцца ў горад, а з горада — у вёску, ды яшчэ спадзявацца дажыць да таго часу, калі тэлефонная кампанія за грошы кліента будзе рабіць усё ад траншэі да разеткі хутка і якасна.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ПРОБЛЕМА

## Беларусь стареет

**На начало этого года в стране проживало 1011 человек в возрасте ста лет и старше; насчитывалось 2 миллиона 176 тысяч пожилых (в возрасте 60 лет и старше) людей, причем каждый четвертый из них перешагнул 75-летний рубеж.**

По данным Министерства здравоохранения, удельный вес пожилых людей составляет 29,9% сельского и 12,7% городского населения.

**БелаПАН**





# "МЫ ВЫПІЛІ НЯШМАТ..."

**Вечарам аўтамабіль Слонімскага медвыцвярэзніка выехаў на чарговае дзяжурства. Каля 19 гадзін пачаўся самы «ураджайны» час.**



На Чырвонаармейскай вуліцы каля магазіна "Салют" два сяржанты пасадзілі ў машыну маладога хлопца ў даўно нямытай вопратцы і стаптаных красоўках.

— За што вы мяне забралі? — кідаючы позірк ва ўсе бакі, перапытваў ён. — Сёння ў майго сябрука дзень нараджэння, выпілі крыху. Я нікога не чапаю. Пасля гэтых слоў кліент моцна ікнуў і ледзь утрымаўся на лаўцы.

Падобную споведзь прыйшлося пачуць і ад высокага хударлявага мужчыны з тварам колеру чырвонай ружы.

— Дык я нічога! Ну выпіў трошкі.

У грыльбары, што ў цэнтры горада, было ціха і, на здзіўленне, ніхто не дзёўб носам у рыбную лузгу. Праехаўшы пэўны час па начному Слоніму, нарад падабраў яшчэ некалькі добра п'яных мужыкоў. Адзін з іх ляжаў проста на тратуары на Савецкай вуліцы. А другі быў, нібы труп. Каб прывесці бедалагу ў пачуццё, міліцыянеру спатрэбілася энергічна пацерці яму вушы і скроні. Пасля таго, як занеслі цела ў машыну, стала відаць, што там больш няма месца. Сабраны народ не маўчаў. "Пасажыры" нешта высвятлялі між сабой, пагражалі, крычалі. Адным словам — дурдом на колах...

Разгрузка машыны праходзіла па тым жа сцэнары, што і загрузка. Кагосьці выносілі, кагосьці падтрымлівалі і накіроўвалі да выцвярэзніка. Рэдкі індывідум сам трапляў у дзверы. Некаторыя па некалькі разоў спрабавалі пераступіць парог, але толькі цвёрдая рука міліцыянера дапамагала чалавеку знайсці правільны шлях у будынак.

У прыёмным пакоі выцвярэзніка практычна ўсе госці захацелі ў прыбіральню. Адзін дайсці туды не змог, яго так размарыла на лаўцы, што чалавеку, відаць, прысніўся Ніягарскі вадаспад.

Пасля ўсяго павесялеўшыя мужыкі сталі праяўляць нораў. Усім без выключэння здавалася, што іх затрымалі ні за што, і выпілі яны ўсяго кроплю. Мужчына, які быў падабраны на тратуары, разышоўся не на жарт.

— Мянты паганыя! Я вас усіх пазабіваю! — зачынены ў пакоі, ён працягваў лаяцца, грукаючы кулакамі ў дзверы.

Даволі добра апрануты мужчына, на выгляд гадоў 35, на пытанні дзяжурнага адказваў своеасабліва, часам пераходзячы на поўны дурман.

— Я браў палац Аміна ў Кабуле, маю медаль за ўзяцце Вільнюса...

Месца працы слаўнага воіна і агента ўсіх спецслужбаў было ўстаноўлена, і яго павялі спаць.

Усіх без выключэння затрыманых абшукалі, апісалі рэчы, палічылі грошы, якія мелі кліенты.

— Бытуе меркаванне, што вы "чысціце" кліентаў да ніткі, ніхто нічога не дакажа, а п'янаму не паверыць, — спытаў я.

— "Чысціць" п'яных іх сабутэльнікі, — адказаў афіцэр, — і хлопцы, што "дзяжураць" каля бараў. Рэдка каго мы забіраем з грашыма. Звычайна ў нашых кліентаў ужо няма ні пінжака, ні шапкі, а часам сабутэльнікі і туфлі здымуць. Вось такі "кадр" праспіцца і пачынае крычаць: "Аддайце грошы!". Трэцяя частка нашых наведвальнікаў — бамжы і беспрацоўныя. У іх, акрамя блох, нічога няма, — сказаў дзяжурны.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

З ЗАЛЫ СУДА

# АПОШНІ ВЕЧАР

Уладкаваўшы хатнія справы, Кацярына села ля акна. Згушчаўся асенні прыцемак. Было такое ўражанне, што ў паветра нехта нябачнай рукой дабавіў чарніла. Раптам убачыла, што ў іхнія веснічкі заходзіць чалавек. Адразу пазнала ў ім мужа. Беспамылкова вызначыла і тое, што Андрэй быў выпіўшы. У апошні час гэта здаралася нярэдка. І менавіта з-за п'янства ў іх сям'і не было спакою. Калі раней абыходзіліся сваркамі, то цяпер часта біліся. Кацярына не раз насіла сінякі. Злоба захліствала ўсе іншыя эмоцыі і, здавалася, каб раптам расступілася зямля і адзін з іх праваліўся ў бездань, то другі ніколькі не шкадаваў бы.

Кацярына не раз казала ў парыве злосці:

— Пачакай жа! Дабром мы з табой не разыйдземся! Цябе я зарэжу, а сама пайду і ўтаплюся...

Ды ніхто на гэта не звяртаў увагі. Ну казала і казала. Ці мала што можа гаварыць жанчына ў парыве гневу. Пазлуецца, адыдзе і сама будзе дакараць сябе за такія словы.

Іншая так, а Кацярына гаварыла ад шчырага сэрца. І падмацоўвала свае словы справай. Аднойчы яна ўжо кідалася на мужа з нажом. Але тады абышлося.

Андрэй зайшоў у хату, распрануўся.

— Што, зноў прыклаўся да чаркі? — спытала разгневаная жонка.

— А ты не прыкладваешся? Святая?

У словах Андрэя была доля праўды. Аднойчы яны абое так выпілі, што маленькае дзіця забралі да сябе суседзі. Гарэлка-зладзейка пасялілася ў сям'і на правах блізкай сваячкі і дыктавала мужу і жонцы свае законы.

...Сварка разгаралася, як сухая салома на ветры. Узаемныя папрокі гучалі абразліва, каб зрабіць другому яшчэ больш балюча.

А потым... Потым Андрэй не паспеў нічога зразумець, толькі пачуў у грудзях, з левага боку, пякучы боль. Ён не бачыў, як жонка схапіла нож, як размахнулася і бязлітасна ўсадзіла яго ў грудзі чалавеку, які быў бацькам яе дзіцяці.

Кашуля на вачах набухала крывёй, падкасіліся ногі, і Андрэй паціху асеў на падлогу. Ён яшчэ не разумеў, што жыць яму на гэтым свеце засталося некалькі імгненняў.

Кацярына нанесла ўдар жорсткі, не пакідаючы мужу ніякіх шанцаў на жыццё: пазней высветлілася, што яна прабіла нажом лёгкае, пачалося моцнае вонкавае і ўнутранае кровацячэнне.

Усе, каму давялося бачыць гэты жудасны малюнак, са страхам і недаўменнем адзначалі, якой спакойнай і абыякавай была жанчына, што ўсадзіла нож у грудзі мужа. Адзін з відавочцаў расказаў на судзе, як зайшоў у хату і ўбачыў, што Андрэй сядзіць на падлозе. Ён сцякаў крывёю, а Кацярына спакойна стаяла побач. Не мітусілася, не галасіла, не дакарала сябе, што зрабіла непапраўнае. Вяла сябе так, нібы ля ног памірае не бацька яе дзіцяці, не муж і не чалавек зусім. Яна толькі сказала людзям, якія прыляцелі на бяду:

— Ну, вось. Чаго хацела, таго і дабілася...

А чаго, уласна кажучы, дабілася? Пазбавіла жыцця чалавека, з якім дзяліла стол і ложак, ад якога нарадзіла дзіцятка, які прыносіў у хату сваю капейку, бо пастаянна працаваў і, дарэчы, на працы пра яго ніхто не сказаў дрэннага слова. А што, здаралася, выпіваў, дык хто цяпер гэтым не грашыць? І жанчыне трэба было зразумець, што змагацца з п'янствам можна было рознымі метадамі. Толькі не нажом!

А яшчэ яна дабілася таго, што дзіця пры жывых бацьках будзе расці сіратой. Ды яно, уласна кажучы, і не будзе ведаць (калі людзі не раскажуць), што былі ў яго тата і мама, быў свой дом, бо яшчэ настолькі малое, што не можа нічога запомніць і асэнсаваць.

А сама Кацярына трапіла на лаву падсудных. Але віну сваю яна прызнала часткова, не перажывала, не раскайвалася. Спакой і вытрымка не здрадзілі ёй і ў гэты цяжкі час. Стваралася ўражанне, што яе не хвалюе ні ўласны лёс, ні лёс маленькага дзіцяці, ні, тым больш, лёс мужа, які яна вырашыла канчаткова, падпісаўшы яму смяротны прысуд.

Раённы суд вызначыў меру пакарання: восем гадоў правядзе маладая жанчына ў выпраўленча-працоўнай калоніі агульнага рэжыму. Абласны суд пакінуў гэты прыгавор без змянення.

**Ірына СІНЕВІЧ**

РЭХА ПАДЗЕЙ

# ВОСЕМДЗЕСЯТ ГАДОЎ НАЗАД СЛОНІМЕЦ АЛЯКСАНДР ЗАГРАДЗІН АДНАЎЛЯЎ ГОРАД ГРОЗНЫ


Малюнак Рыгора ЖУКА

*Аляксандр Заградзін*

Адна са станцый прыгараднай чыгункі, якая злучае Грозны са Старымі нафтавымі промысламі, была ў свой час названа ў гонар былога жыхара Слоніма Аляксандра Заградзіна. Цяпер гэта станцыя амаль разбурана. Расійскія самалёты штодзённа наносяць бомбавыя ўдары па Чачні. І ўсё гэта адбываецца сёння.

Нешта падобнае было ў Чачні і 80 гадоў назад, калі на Каўказе ўстанаўлівалася савецкая ўлада. Нацыянальны герой каўказскіх народаў Шаміль напрыканцы свайго жыцця казаў, каб яны ніколі не ваявалі з Расіяй. Здавалася, што каўказскае пытанне, адно з самых балючых і жорсткіх у гісторыі Расіі, было вырашана на пачатку нашага стагоддзя раз і назаўсёды. Але не. Яно надзвычай вострa паўстала зноў.

Ці думаў тады слонімец Аляксандр Заградзін, што сілаю любы народ закабаліць нельга, а тым больш чачэнскі. Праўда, дзеля гэтага народа наш зямляк аддаў жыццё.

Аляксандр Заградзін нарадзіўся ў Слоніме ў багатай сям'і землеўладальніка Уладзіміра Заградзіна. Дарэчы, недалёка ад вёскі Хадзявічы, сярод лесу, ёсць вялікае поле, якое так і называецца Заградзіна. Сапраўды, зямля гэта належала Уладзіміру Заградзіну. Сын яго Аляксандр спачатку закончыў Варшаўскі політэхнічны інстытут, а ў 1913 годзе — Нікалаеўскае ваеннае вучылішча юнкераў. У гады першай сусветнай вайны наш зямляк быў накіраваны на Заходні фронт на будаўніцтва розных фартыфікацыйных збудаванняў.



*Чачэнская вёска пасля расійскай бамбардзіроўкі*

Падчас кастрычніцкай рэвалюцыі ён пайшоў ваяваць за "народную справу". Былы штабс-капітан царскай арміі становіцца чырвоным афіцэрам.

У сакавіку 1918 года Аляксандра Заградзіна прызначылі камандзірам інжынернага атрада ў Магілёўскую губерню, а летам 1919 года наш зямляк ужо ваюе на Паўднёвым фронце. Праз год ствараецца Каўказская армія працы, у якую загадам па фронту перадаецца батальён Аляксандра Заградзіна.

Дзень і ноч Аляксандр знаходзіцца на аб'ектах Грознага сярод чырвонаармейцаў і нафтавікоў. Прыходзілася не толькі адбудоўваць чачэнскую сталіцу, але і абараняць горад ад баевікоў...

На жаль, убачыць плады сваёй працы Аляксандру не ўдалося. Трэцяга лютага 1922 года яго не стала. Сябры, вайскоўцы і нафтавікі пахавалі слонімца на адных з грозненскіх могілак...

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# ТРАГИЧЕСКИЕ ИСТОРИИ

Жителю деревни Пенчицы, что в Дятловском районе, в наследство достался деревенский дом. Жил мужчина один: до 47 лет семьей он так и не обзавелся, брат далеко, а родители умерли. Тихий пьяница – называли его односельчане. Работал он полеводом в колхозе, но периодически срывался и сутками сидел дома: пил, курил, спал. Случилось то, что рано или поздно должно было случиться. Он пил двое суток, а ночью сгорел.

В пожарную часть позвонила соседка, которая увидела бушующий в доме огонь. Труп хозяина нашли в кухне, перед смертью мужчина уснул, сидя на кровати.

29-летний житель из города Мосты также был любителем спиртного. Однажды ночью, без памяти свалившись на кровать, он уснул, затянувшись папироской. Его 50-летний гость пристроился в соседней комнате. Он и почуял, что в доме пожар. Выполз на улицу, поднял шум, и люди вызвали пожарных.

В течение семи месяцев текущего года в Гродненской области зарегистрировано 967 пожаров, 788 из которых – в жилом секторе. Причина их – неосторожное обращение с огнем: незатушенные спички, оброненные окурки, тлеющие угли костра, подожженная сухая трава... Всего за этот период погибло 45 человек, четверо из них – дети. Большинство пожаров произошло в сельской местности, где и погиб 31 человек самого разного возраста.

Вот ещё одна из печальных историй. Корм для домашней скотины женщина готовила на газовой плите, поэтому для удобства пользовалась двумя баллонами. Запасной, почти всегда полный, стоял в прихожей. В тот воскресный вечер сухие дрова приятно потрескивали за приоткрытой дверкой. Рядом пристроились смотреть мультфильмы две малышки. Мать спокойно направилась с полными ведрами к сараю кормить животных. Только она подошла к дверям, как вдруг позади себя услышала короткий, но страшный звонкий хлопок, исходивший из ее квартиры. Ноги подкосились сами собой. Молодая женщина, не помня себя, побежала к дому. В окне детской комнаты ее квартиры на втором этаже повылетали стекла и наружу вырывался огонь. Хозяйка быстро взбежала по лестнице, открыла дверь и сразу же опять ее закрыла: в лицо ей ударила жаркая волна, огонь был повсюду, а на полу лежал газовый баллон, который "свистел" густым пламенем. Даже шага было сделать не возможно.

"Дети?!" – истошно кричала мать.

Односельчанин схватил лестницу, подставил ее к окну гостинной с обратной стороны дома. Взобрался наверх, перелез через подоконник и стал звать детей. Было очень жарко: огонь добирался уже и в эту комнату. Девочки не отзывались. Вслепую мужчина нашел их. Спаситель передал сестричек на улицу, и едва сам почувствовал перекладину лестницы под ногами, как в квартире взорвался газовый баллон.

Детей увезла скорая с тяжелыми ожогами, пожар потушили пожарные, но что же произошло за те несколько минут, пока матери не было в квартире?

... Мультфильмы закончились. Дети начали гоняться друг за дружкой и нечаянно толкнули газовый баллон в прихожей, он упал. Мама ведь будет за это ругаться, поэтому и стали малыши пытаться поднять баллон. Крутили, вертели его со всех сторон, хватали за вентель в надежде поднять, но все напрасно. Отошли. А газ, получив маленькую лазейку, тем временем потихоньку начал выходить наружу, наполняя прихожую и открытую детскую комнату. Взрыв, который услышала на улице мать, произошел от встречи скопившегося газа с открытым огнем в печи.

На следующий день вместе с хозяйкой пожарные зашли в ее квартиру. На полу валялись обгоревшие остатки детской обуви и одежды, мебели как будто и не было. Молодая женщина все еще не могла прийти в себя. Продали корову, за эти деньги купили телевизор, радовались новой "стенке". Во многом себе отказывали. А сейчас остались голые, босые...

**Виктор ЗИМНИЦКИЙ,**
**инспектор госпожнадзора Слонимского ОВСП-16**
**Геннадий ЕДА,**
**начальник инспекции госпожнадзора ОВСП-16**


Фота IREX/ProMedia

НАВІНЫ

## "Наша свабода"

**Планировалось, что в ближайшие две недели в Беларуси должен начаться выпуск новой негосударственной газеты "Наша свабода".**




*Павел Жук с последним номером газеты*

Об этом было заявлено на пресс-конференции, которая прошла в Минске в редакции газеты "Навіны".

Как известно, это издание прекратило выходить после того, как был арестован банковский счет и описано имущество редакции. Подобные карательные меры были предприняты в отношении газеты в связи с тем, что председатель Совета безопасности Виктор Шейман отсудил у "Навін" 10 млрд. руб. В такую сумму он оценил свои честь и достоинство после одной из публикаций, которую поместила газета на своих страницах.

По словам заместителя редактора "Навін" Николая Халезина, "Наша свабода" должна стать ежедневным изданием с тиражом до 100 тысяч экземпляров, которое планируется распространять, прежде всего, в Минске и областных городах. По сведениям из информированных источников, сообщил Н.Халезин, Госкомитет по делам печати оказывает давление на типографии и на государственное объединение "Союзпечать" с тем, чтобы не печатать и не распространять новое издание. В этом случае, заявил Н.Халезин, "мы будем искать иные варианты издания газеты, в том числе в России".

Учредитель и исполняющий обязанности главного редактора "Навін" Павел Жук заявил, что закрытие газеты нанесло ему существенный финансовый удар. Чтобы раскрутить новое издание, по подсчетам Жука, необходимо 150-200 тысяч долларов. И это не первый удар, который ему нанесен властями: в свое время была закрыта газета "Свабода". "Впрочем, – подчеркнул он, – деньги – это не главное. Главное – наше время, которое режим крадет у всех граждан. Мы прожили пять лет и не продвинулись вперед ни на шаг".

**P.S.** Когда этот материал уже стоял на полосе, стало известно, что Комитет по печати признал недействительным свидетельство о регистрации газеты «Наша свабода».

**Геннадий БАРБАРИЧ**

## Нет страховки — плати штраф

**1 октября истек срок, к которому владельцы транспортных средств в Беларуси обязаны были застраховать гражданскую ответственность, введенную декретом А.Лукашенко 1 июля 1999 года.**

Как сообщил БелаПАН генеральный директор Белорусского бюро по транспортному страхованию Петр Кучерин, согласно последним оперативным данным, за три месяца в республике заключено 732 тысячи договоров страхования, или 30,2% от общего количества владельцев транспортных средств среди юридических и физических лиц.

А это значит, что с 1 октября сотрудники ГАИ имеют право штрафовать владельцев транспортных средств, не имеющих страховых свидетельств. Напомним, что использование транспортного средства без договора обязательного страхования повлечет наложение штрафа на юридическое лицо и предпринимателя, осуществляющего свою деятельность без образования юридического лица, в размере 15 минимальных зарплат (21750000 рублей); на физическое лицо – 5 минимальных зарплат (7250000 рублей).

**Алексей ОРЕШКО**

## У нас 100000 наркоманов

**В Беларуси официально зарегистрировано 6000 наркоманов, однако реальное их количество составляет порядка 100000.**

Такие данные сообщил начальник управления нравов и незаконного оборота наркотиков Министерства внутренних дел Беларуси Анатолий Бурий.

Несмотря на профилактические мероприятия, проводимые различными государственными органами, в Беларуси наблюдается тенденция роста незаконных посевов наркотических веществ. В частности, по словам А.Бурия, в этом году резко возросли площади посевов конопли – в три раза. Как правило, преступники незаконно выращивают наркотики в южных районах Беларуси.

Вместе с тем, количество наркотиков, ввозимых в Беларусь из-за рубежа, растет.

По словам А.Бурия, исследования показывают, что из общего количества граждан, занимающихся торговлей наркотиками в республике, 21% составляют выходцы с Кавказа, 24% – цыгане, 29% – сами наркоманы. Стандартная доза маковой соломки стоит сейчас в Беларуси от 4 до 8 долларов, один грамм героина – от 40 долларов и выше, опия – 10 долларов, ЛСД – 7-8 долларов за таблетку.

**БелаПАН**

